ГОД ВЫДАНЬНЯ I. ЦАНА НУМАРУ 40 Гр.

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

**Царкоуна-Нацыянальны двутыднёвік**
**Орган Праваслаўных Беларусаў**

| 18 красавіка 1930 году | Падпісная цана; за 1 месяц—80 гр.; за 3 мес.—2 зл. 40 гр.; 6 м.—4,50; год—8 зл. | № 1 |
|---|---|---|

Адрэс Рэдакцыі; Вільня, Завальная 6—5.

**Паважаных Айцоў Духаўнікаў, прыхаджан і наагул ўсіх праваслаўных Беларусаў вітаем ў дзень Вялікага Сьвята і перасылаем ХРЫСТОС УВАСКРОС!!!**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!..

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучальнік, здаецца,
Абняў Ўсіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна сьвятая думка
З канца ў канец, як сьвет вялік.

З канца ў канец, як сьвет вялік.
З сваей убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усей душой.

Хрыстос васкрос! пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос! пяюць і тыя
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!.. К Табе о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь мая старонка
Васкрэсьне к лепшаму жыцьцю.

*Янка Купала.*

# АД РЭДАКЦЫІ.

Выпіска з праэкту Статута Ц.Б.П.К. § 1

*„Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт па Беларусізацыі Царквы прызнае ненарушымасьць догматаў, канонаў і абрадаў Праваслаўнае Царквы, а таксама Аўтакэфалію Праваслаўнае Царквы ў Польшчы і Яе Галаву ў асобе Мітрапаліта"...*

Выпіска з рэзалюцыі Сходу адбыўш. 14. III 1930 г

*„Багаслужэбнай мовай астацца павінна мова царкоўна-славянская і надалей..."*

Галоўным чыньнікам у жыцьці ўсіх народаў ва ўсе часы была рэлігія. Гісторыя ўсіх народаў сьведчыць, што людзкае жыцьцё ўсім найпрыгажэйшым і найдасканальнейшым павінна быць удзячна рэлігіі, яна дапамагала разьвіцьцю народнае культуры ва ўсіх яе галінах.

Пэрыяды рэлігійнага ўздыму заўсёды бывалі і пэрыядамі асабліваe маральнае чысьціні і найвышэйшае чалавечае творчасьці, а пэрыяды рэлігійнага занападу заўсёды зьяўляліся і пэрыядамі занападу маральнага, і наагул культурнага.

Практычнае значэньне рэлігійнага чыньніку выяўляецца ў тым, што яно даходзіць да найглыбейшых куткоў народнае душы, уплывае аднолькава, як на дарослых так і на дзяцей,—на мушчын і жанчын, на высокаадукаваных і зусім цёмных, на ўсіх—нават да самых глухіх закуткаў краю—усюды дасягае яго чыннасьць.

Аднак-жа такое моцнае дабратворчае значэньне на жыцьцё людзей мае рэлігія толькі тады, калі яна пашыраецца і паглыбляецца на грунце **нацыянальным**, калі галоўныя рэлігійныя працаўнікі—духавенства—зьяўляюцца роднымі сынамі свайго народу, разумеюць яго дух, радуюцца яго радасьцямі, хварэюць яго хваробамі, гатовыя аддаць жыцьцё за свой народ. Толькі пры гэтых варунках духаўнік можа выконываць сваё высокае назначэньне на карысьць царквы і народу. Калі-ж духаўнік зьяўляецца нацыянальна чужынцам сваіх духоўных дзяцей, дык ён можа быць толькі айчымам, а не родным айцом ім, а дзеля гэтага і вынікі яго працы могуць быць падобнымі да расьліны пасаджанай у сухі і бедны грунт.

Калі нацыянальная сувязь паміж духаўнікам і народам заўсёды і ўсюды мела вялікае значэньне ў рэлігійным жыцьці народаў, тым вялікшае значэньне мае яна цяпер—у пару пашырэньня сярод народнае гушчы ідэяў сацыялізму, інтэрнацыяналізму і бязвер'я, а асабліва на абшарах Заходняе Беларусі, дзе стыкаюцца пытаньні, рэлігійныя, палітычныя і нацыянальныя.

На вялікі жаль IXX стагодзьдзе, пад час панаваньня расейскага ўраду, дало нашаму праваслаўнаму беларускаму народу чужынцаў духаўнікоў, якія перадусім служылі мэтам русыфікацыі народу. Падтры-

мліваная паліцэйскімі сьродкамі Праваслаўная Царква на Беларусі здавалася была моцнаю, але гэта толькі так здавалася, ў запраўднасьці яна была зданьню; чужое духавенства жыло само па сабе, часта з пагардаю адносячыся да сваіх духоўных дзяцей, вынікам чаго была поўная адсутнасьць уплыву духавенства на прыхаджан, а праз гэта і асłабленьня рэлігійнага пачуцьця.

Такое сумнае палажэньне захавалася ў Заходняй Беларусі і пасьля адыходу яе пад уладу Польшчы. Ненармальнасьць і вялікую шкоднасьць такога палажэньня для царкоўна-нацыянальнае справы адчувае ўсё царкоўна-нацыянальна настроенае беларускае грамадзянства і шукае адпаведнага выхаду з такога палажэньня.

Да гэтае пары праца над аздараўленьнем царкоўнага жыцьця вялася паасобнымі адзінкамі і толькі цяпер пачынаецца арганізаваная праца дзеля дасягненьня гэтае мэты.

Абраны на зьездзе 14 сакавіка г.г. Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт, прыступаючы да выдаваньня сваей часопісі п. н. „Сьветач Беларусі“, заклікае ўсіх да працы на царкоўна-нацыянальным грунце з мэтаю абароны царквы, пашырэньня і паглыбленьня Праваслаўнае Веры праз збліжэньне духавенства з народам, агульнае падтрыманьне тых забітых у вясковай глушы духаўнікоў, якія падзяляюць нашыя погляды і аддана будуць працаваць на духоўна-нацыянальную карысьць беларускага народу.

З глыбокім пераконаньнем у карыснасьці распачатае справы, спадзяемся на дапамогу ў гэтым напрамку Найвышэйшага і шчыра веруючага грамадзянства.

**Рэдакцыя.**

# СУЧАСНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

З дакладу гр. У. Більдзюкевіча адчытанага 14/III—1930 на канфэрэнцыі.

Праваслаўная вера зьяўляецца старэйшым хрысьціянскім вызнаньнем на нашых землях. Першыя мучанікі за веру Хрыстовую былі праваслаўныя. Першыя храмы, якія былі пабудованы у нашым краі былі праваслаўныя Царквы.

На тым мейсцы, дзе цяпер у Вільні стаіць Мікалаеўская Царква, пры В. Кн. Літоўскім Гэдыміне была пабудована нявелічкая дзераўляная царква ў імя сьв. Мікалая.

Жонка В. кн. Альгерда Мар‘я Яраслаўна пабудавала нашую Пятніцкую Царкву.

Да 1506 году у Горадні ня было ніводнага каталіцкага касьцёла.

Каталіцтва пачынае распаўсюджывацца ў Ліцьве, часткай захоплі-ваючы і беларусаў, толькі ад 1386, года хрышчэньня В. Кн. Ягеллы.

Наколькі моцным было ў той час Праваслаўе на Літоўска-беларускіх землях аб гэтым сьведчыць акт Гарадзельскай вуніі (1413 г), якая ўжо абмяжоўвае правы Праваслаўнае Царквы на карысьць каталіцтва.

З мамэнту адыходу Беларускіх зямель пад панаваньне Літвы і ства-рэньня Вялікага Літоўска-Беларускага Княжства, Праваслаўная Царква пачынае змагацца за сваю самабытнасьць.

У 1414 годзе склікаецца Царкоўны Сабор, на якім апавяшчаецца аўтакэфалія і ў 1415 годзе Беларуская Царква мае першага свайго міт-рапаліта Грыгора Цамбляка—які становіцца галавою аўтакэфальнай праваслаўнай царквы ў Вялікім Літоўска-Беларускім Княжстве.

Гэтая аўтэкафалія ніколі кананічным парадкам ня была скасавана.

Калі Кіеў адыйшоў да Масквы, то прызнаньне залежнасьці Правас-лаўнай Царквы ў В. Кн. Літоўска-Беларускім ад маскоўскага Патрыярха праз Кіеўскага і Усяе Белае і Малае Русі, мітрапаліта Гэдэона-было аднабокім актам Масквы і Канстантынаполя.

Гэты пэрыяд самастойнага існаваньня Праваслаўнай Царквы ў В. Кн. Літоўска-Беларускім трэба лічыць самым слаўным пэрыядам у гісто-рыі нашае Царквы.

Перажываны моцны ўціск з боку каталіцкага духавенства, асабліва з боку айцоў езуітаў, а таксама з боку каталіцкага польскага грама-дзянства і польскай улады, Праваслаўная Царква захоўваючы Апосталь-скія Саборныя запаведзі змагла аб'еднаць у адзінае цэлае і сваё духа-венства і верны ёй праваслаўны народ. Духавенства, якое было роднае народу па мове і па крыві зьлілося з народам і народ бараніў, як сваю веру, так і сваіх духоўных пастыраў.

Вялікую ролю тады ў нас на Беларусі адыгрывалі праваслаўныя брацтвы.

У брацтвах аб'едналіся лепшыя праваслаўныя людзі нашай зямлі і моцна стаялі за сваю сьв. веру і за свой народ.

Царкоўным жыцьцём фактычна кіравалі брацтвы, якія былі адзінымі абаронцамі сваёй праваслаўнай веры і свайго праваслаўнага духавен-ства ад уціску як з боку сьвецкай улады так і каталіцкага духавенства.

Вера праваслаўная была нацыянальнай верай беларускага народу.

Пры Кацярыне Вялікай беларуска-літоўскія землі адыходзяць да Польшчы і ад гэтага часу меняецца самыўстрой нашае Царквы. Рэформа Пётра Вялікага замяніла Саборны лад Расейскае царквы на Сынодаль-на-Кансысторскі, пры якой царква траціць сваю самастойнасьцьі стано-віцца звычайнай інстытуцыяй якая ўсёцэла знайходзіцца пад уплывам улады адміністрацыйнай. Расейская палітыка якая йшла ў кірунку русы-фікацыя нашага краю павінна была зьвярнуць сваю ўвагу на правас-лаўнае духавенства, бо духавенства нашае, якое ў той час было нацы-янальным духавенствам, стаяло блізка да народу і карысталася вялікімі ўплывамі на насельніцтва.

І вось высшыя духоўныя становішчы пачалі замяшчацца або расейцамі або ўгадоўцамі, якія за гонар і грошы сталі верна служыць царскай уладзе.

Высшыя духоўныя ўстановы і духоўныя сэмінарыі сталі расейскімі.

Мала па малу паддалося і сельскае духавенства, якое яшчэ было верным свайму народу.

Пачало і яно русыфікавацца, тым балей што Расейскі ўрад паставіў яго ў добрыя матэр'яльныя варункі.

Кроўная сувязь праваслаўнага духавенства, якая вязала яго з народам парываецца, само духавенства выдзяляецца ў асобную касту, якая за ўсялякую цану стараецца ўтрымаць сваё ўпрывілеяванае становішча, зьвязанае з пэўнымі матэр'яльнымі карысьцямі.

На Беларусі на народ духавенства пачынае глядзець, як на цёмную мужыцкую масу і лічыцца з ім толькі як з крыніцаю свайго дабрабыту.

Духавенства пачынае лічыць сябе—рускім, народу стараецца ўмушчыць, што праваслаўны беларус—„эго іскони русскій человек“.

Да мовы беларускай яно адносіцца з пагардаю як да мовы простай, мужыцкай.

Вось якую спадчыну мы атрымалі ад Расейскай Царскай Улады.

Даўно ўжо няма Расейскае Імпэрыі, нашыя землі адыйшлі да Польшчы. Беларускі народ, з якім ня лічыліся, сьвядома і моцна падняў свой голас. У складзе Польскай Дзяржавы мы прызнаныя канстытуцяй, як нацыянальная меньшасьць. Сьвядомасьць гэтага пранікала ў шырокія масы і беларускі народ пачынае змагацца за свае нацыянальныя правы, за зьдзейсьненьне сваіх нацыянальных ідэалаў.

Але праваслаўнае духавенства з народам не пайшло, яно і да гэтай пары, ня можа пагадзіцца з тым, што наш край адыйшоў ад Расеі, што праваслаўнае духавенства павінна быць цяпер духоўным пастырам беларускага народу.

Да гэтай пары сярод нашага духавенства пануе русафільства і русыфікатарства.

Жыды маюць равінам свайго жыда, палякі-каталікі—свайго ксяндза паляка, ліцьвіны—свайго ліцьвіна, нават нашыя браты беларусы каталікі маюць сваіх кзяндзоў беларусаў.

Чамуж толькі мы праваслаўныя беларусы павінны мець духавенства расейскае?

Але і мы з гэным згадзіцца ня можам!

Ня можам таму, што лічым праваслаўную веру сваёй нацыянальнай верай, што нам нашая вера даражэй усяго на сьвеце.

Ня можам таму, што такое палажэньне вядзе да ўпадку ў нас Праваслаўя. Расьце з кожным днём сярод народу бязбожжа, бязьвера, індэфэрэнтызм да пытаньняў веры.

Расьце сэктанства: бабтызм, метадызм і інш., якое адхоплівае ад лона Праваслаўнае Царквы ёй верных.

Рымска-Каталіцкая Царква ізноў высоўвае на нарадах дня вунію і стараецца правесьці т. зв. рэвіндыкацыю цэркваў. Адным словам ідзе развал Праваслаўнае Царквы і трэба шукаць ратунку. Высшая Царкоўная Улада знайшла гэты ратунак у скліканьні Усепольскага Праваслаўнага Сабору. Але да справы гэтай падыйшла ня шчыра. Замест таго каб запраўды Сабор даў магчымасьць усебакова высьвятліць сучаснае палажэньне Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, замест таго каб сабраць на Сабор прадстаўнікоў ад беларусаў і ўкраінцаў, якія складаюць 80 пр. усяго праваслаўнага насельніцтва, выбарчая ардынацыя Сабору была так падтасавана, што на яго маглі трапіць толькі адныя расейцы.

Ясна, што такая выбарчая ардынацыя не магла не спаткаць пратэстаў з боку праваслаўных беларусаў, якія не маглі дапусьціць, каб на Саборы ня было прадстаўнікоў ад беларускага народу.

Стварыўся спэцыяльны Царкоўны Камітэт, які востра выступіў на старонках беларускай прэсы супроць выбараў на Сабор.

Потым выступіла з сваім мэмарыялам на імя Мітрапаліта Діанісія Т-ва. „Прасьвета“, у якім падкрэсьліваецца аднабокасьць выбарчай ардынацыі і праводзіцца думка, што да скліканьня Сабору павінны быць праведзены караныя рэформы Праваслаўнае царквы на Беларусі.

Нарэшце 14 сакавіка 1930 г. адбылася першая Праваслаўная беларуская Канфэрэнцыя—Сход, пратакол якой і вынясеныя разалюцыі зьмяшчаем ў гэным нумары нашае часапісі.

Да гэтай пары ў справе Праваслаўнай царквы беларусы выступалі неарганізавана і вось Кан. 14 сакавіка парушае спр. арганізаванага выступленьня—на якой і быў закладзены першы Беларускі Праваслаўны Камітэт.

Нашае выступленьне расейцы стараюцца рэклямаваць як спробу разбурэньня праваслаўнае царквы на Беларусі. Зразумела робіцца гэта імі толькі дзеля таго каб дыскрэдытаваць новапастаўшую беларускаю праваслаўнаю арганізацыю, якая мае на мэце падтрыманьне праваслаўя і ўзмацненьне Яго.

І пункт нашага статуту: „*Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт па беларусізацыі Царквы прызнае ненарушымасьць дагматаў, канонаў і абрадаў Праваслаўнае Царквы, а таксама Аўтакэфалію Праваслаўнае Царквы ў Польшчы і Яе Галаву ў асобе Мітрапаліта*“ ясна гаворыць, аб тым, што Праваслаўная Царква ў Польшчы павінна быць Адзінай Праваслаўнай Царквой.

У рэзалюцыі, якая была вынесена на сходзе 14. III. 30 г. і ў § 3 статута ясна падкрэсьліваем, што мовай цэркоўна-богаслужэбнай павінна быць мова царкоўна-славянская.

Так што-ж тады выклікае абурэньне расейцаў?

А гэта тое, што мы хочам духавенства зблізіць з народам, што мы хочам мець духавенства нацыянальна зьвязанае з народам, якое стаяла бы блізка да народу і было бы яго першым сябрам і дарадчыкам.

Мы хочам, каб народ як і раней ў сваім гістарычным прошлым моцна стаяў бы за сваю Сьвятую Веру і бараніў бы Яе.

Мы хочам каб духавенства было нашае беларускае, а не расейскае як гэта маем цяпер.

Каб наш духаўнік ня цураўся бы нашай мовы, як мовы „простай някультурнай“, а лічыў бы яе сваёй роднай і на гэтай мове вучыў бы народ верыць у Бога і любіць Яго, каб народ разумеў бы свайго пастыра і прыняў бы яго вучэньне душой і сэрцам. Мы дамагаемся ськліка765ньня Усепольскага Праваслаўнага Сабору, які бы аб'яднаў ўсіх веруючых ў Адзіную Саборную Апостальскаю Праваслаўную Царкву ў Польшчы.

Вось тая беларусізацыя якой так палохаюцца расейцы і расейскае праваслаўнае духавенства, якія чамусь думаюць, што кіраваньне царкоўным жыцьцём на Беларусі павінна знайходзіцца толькі ў руках расейцаў. Хоця-жа гэта якраз і пагражае ўпадкам і разбурэньнем сьв. праваслаўнай Царквы на Беларусі.

# МАЛІСЯ БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ НАРОДЗЕ!

Нядаўна ўвесь сьвет маліўся за пацяр пеўшых за веру ў Бога ў Саўдэпіі, маліліся і ў нас у Польшчы, маліліся ўсе: і каталікі і эвангелікі, і жыды і мусульманы. Не малілася толькі нашае праваслаўнае духавенства. А нат, больш чым другім, гарачэй як другім трэба была-б маліцца за гэтых мучанікаў за веру Хрыстовую--бо сярод іх нашыя браты—беларусы.

Мо' па цёмных кутках нашае вёскі няведама, што церпяць хрысьціяне ў старонцы Саветаў.

Бальшавікі пераканаліся што пакуль істнуе рэлігія, істнуе нацыянальнае пачуцьцё, да тэй пары камуністычныя ідэі ня могуць запанаваць сярод шырокіх народных масаў.

Яны аглашаюць „рэлігію“ і „нацыю“ контр-рэвалюцыяй і пачынаюць змагацца ня толькі з вераю ў Бога, нават з самай ідэяй Бога, пачынаюць змагацца з нацыянальным пачуцьцём у народзе. Зьяўляецца асобная сэкта бязбожнікаў, якая зьдзекуецца над рэлігіяй, над Божымі храмамі, над царкоўнымі абрадамі.

Камсамольцы ўбіраюцца ў рызы сьвяшчэньнікаў і ганбяць антырэлігійныя (кашчунныя) паходы.

Зачыняюць храмы і другія маліцьвеныя дамы і робяць з іх склады для тавараў, рабочыя клюбы і нават стайні для коняў.

Абразы царкоўныя, іканастасы абдзіраюцца і паляцца пад пеяньне і скокі камсамольцаў.

Званы са званіцаў зьняты. Духавенства, якое адважваецца бараніць свае сьвятыні, лічыцца ворагам савецкай улады. Тысячы сьвяшчэньнікаў зсылаецца ў Салавецкія турмы, гэтую савецкую катаргу, горш якой яшчэ чалавецтва нічога ня прыдумала.

Больш уплывовых адважных барацьбітоў за веру проста разстрэліваюць бяз суда.

І гэтыя расправы лічуцца яшчэ мягкімі!

Колькі было выпадкаў, калі сьвяшчэ-

ньнікаў аддавалі самай жорскай сьмерці, калі іх расьпіналі на крыжы, распраналі да голага і на марозе аблівалі халоднай вадой, пакуль ад чалавека не заставаўся адзін кавалак лёду.

Прыпалівалі разпаленым да белага жалезам, улівалі ў горла расплаўленае волава... Дыбам на галаве ўстаюць валасы, калі падумаеш, якім мукам аддавалі людзей толькі за тое, што яны вераць у Бога і бароняць Сьвятыя Яго цэрквы.

І вось ўвесь сьвет запратэставаў процiў гэтых прасьледаваньняў за веру ў Бога.

Толькі нашае праваслаўнае духавенства доўгі час ня ведала як падыйсьці да гэтага пытаньня. Але нарэшце і яно здэцыдавалася і вызначыла агульнае маленьне за гэтых мучанікаў за веру і народ.

Дык ідзі-ж беларускі праваслаўны народзе ў Божую Царкву і горача памаліся, бо сярод гэтых мучанікаў тваe браты-беларусы, якіх цяжкі лёс пазаставіў у кайданах бальшавіцкай няволі.

**У.**

# СЛОВА ІОАНА ЗЛАТАВУСНАГА НА ВЯЛІКДЗЕНЬ.

Хто богабаязны і богалюбівы, хай усьцешыцца цяпер, у гэта вялікае сьвята.

Мудры служэбнік з радасьцю падзялі радасьць Госпада твайго.

Хто працаваў у пост — атрымае цяпер нагароду.

Хто пачаў ад першай гадзіны прымі цяпер належную падзяку.

Хто прышоў пасьля трэцяй гадзіны дзякуй і сьвяткуй разам.

Хто пасьпеў пасьля шостай гадзіны ні мала ні сумлявайся, бо нічога ня траціш.

Хто не пасьпеў і на дзевятую гадзіну, прыступай бяз ніякага сумліву, бяз ніякага страху.

Хто ўрэшце не пасьпеў прыйсьці і на адзінаццатую гадзіну, і той не палохайся спазьненьня: гасьцінны Гаспадар і апошняга прымае — як першага; нагараджае прышоўшага ў адзінадцатую гадзіну — так як і таго, хто працаваў ад першае гадзіны; і апошняму прабачае — і першаму аддае належнае; і гэтага нагараджае па заслугам і таго абдарае.

Ён працы прымае і замеры хваліць і за працу дзякуе пашанаю, а за добрую думку — пахвалай,

Дзеля гэтага ўсе падзеліце радасьць з Госпадам сваім. Першыя і другія прыміце нагароду. Багатыя і бедныя весяліцеся разам.

Шчырыя працаўнікі і гультаі аддайце пашану сяньняшняму дню. Пасьціўшыя і не пасьціўшыя сьвяткуйце сяньня.

Стол поўны — весяліцеся ўсе. Цялец укормлены,—ніхто ня выдзе галодным. Усе насыцьцеся на піру веры, усе скарыстайце багацьце благадаці.

Ніхто ня плач па сваіх грахах, бо ўсім абвешчана з гробу прабачэньне.

Ніхто ня бойся сьмерці, бо вызваліла нас сьмерць Спасіцеля.

Ён перамог яе ў той самы момант, калі быў у яе руках.

Зьнішчыў магутнасьць пекла, як вайшоў у яго.

Разбурыў, як толькі яно дакранулася да яго цела.

І гэта, здаўна прадбачачы, Ісаія ўсклі-

**Праваслаўныя Беларусы! Чытайце і пашырайце сваю родную газэту „Сьветач Беларусі“.**

кае: „Пекла засмуцілася, спаткаўшы Цябе ў сваіх глыбінах“.

Яно засмуцілася ад таго, што зьнішчылася, —

засмуцілася ад таго, што пацярпела паражку, —

засмуцілася ад таго, што страціла сваю сілу!—

засмуцілася ад таго, што пазбавілася свае ўлады,—

засмуцілася ад таго; што была зьвязана.

Узяло цела, а даткнулася Бога,—

Узяло зямлю, а спаткала неба,—

Узяло тое, што бачыла, а атрымала тое, што і не спадзявалася!

Сьмерць! гдзе-ж тваё жала?

Пекла! гдзе-ж твая перамога?

Васкрэс Хрыстос — і ты разбурана!

Васкрэс Хрыстос—і зьнiклі нячысьцікі!

Васкрэс Хрыстос—і царствуе жыцьцё!

Васкрэс Хрыстос і ні адзін нябошчык не застаецца ў магіле, бо Хрыстос, уваскросшы з мертвых, — першы перамог сьмерць. Яму слава і панаваньне Яго на векі векаў. Амін.

# ПРАТАКОЛ

Конфэрэнцыі прадстаўнікоў беларускіх праваслаўных арганізацыяў, праваслаўных прадстаўнікоў ад беларускіх культурна — асьветавых інстытуцыяў, прадстаўнікоў ад беларускага праваслаўнага насельніцтва і прыходаў з епархіі Віленскай і Горадзенскай, па справам Беларусізацыі Праваслаўнае Царквы, якая адбылася 14 сакавіка 1930 г. у м. Вільні за згодай Дзяржаўных Уладаў з дн. 14 сакавіка 1930 г. № 756/V w.

Перад адчыненьнем Конфэрэнцыі на прапанову гр. Т. Вернікоўскага ўсімі прысутнымі была адсьпявана малітва, пасьля якой гр. Т. Вернікоўскі, як старшыня Беларускае Ініцыятыўнае Групы па справам Праваслаўнае Царквы, адчыняе паседжаньне і вітае прыбыўшых на Конфэрэнцыю, зьдзейсьненьне якой мае гістарычнае значэньне ў гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Гр. Т. Вернікоўскі з сумам і абурэньнем сьцьвярджае адсутнасьць беларускага праваслаўнага духавенства, якое так горача адклікнулася на запросіны Бел. Ініцыятыўнае Групы па справам Праваслаўнае Царквы, а нават прыбыло ў Вільню аднак дзеля адмовы арх. Хвядосія ў благаслаўленьні на Конфэрэнцыю зьявіцца не магло. Далей вытлумачыўшы сабраным анармальнае і цяжкое палажэньне Праваслаўнае Царквы, выясьняе прычыну паўстаньня Беларускае Ініцыятыўнае Групы па справам Праваслаўнай Царквы і адчытывае пратакол з дн. 22 Лютага 1930 г. сьцьвярджаючы аб'еднаньне самастойных Царкоўных і Культурна-Асьветных Арганізацыяў у Беларускаю Ініцыятыўнаю Групу па справам Праваслаўнае Царквы. Заклікам да паважнага і справядлівага аднясеньня да справы гр. Т. Вернікоўскі закончывае прывітаньне і згодна з парадкам дня прапануе сабраным выбраць старшыню паседжаньня. Аднагалоснасьцю сабраных старшынёй паседжаньня выбіраецца гр. Т. Вернікоўскі і на сэкрэтара запрашае гр. С. Сароку. Адчытываецца парадак дня і на прапанову прысутных высылаюцца прывітальныя тэлеграмы Прэзыдэнту Рэспублікі, Мітрапаліту Дзянісію, Міністру Асьветы і Спраў Рэлігійных і Міністру Спраў Нутраных. Затым старшыня паседжаньня адчытывае ліст сьв. А. Каўша, які паведамляе старшыню Белар. Ініцыятынае Група па справам Праваслаўнае Царквы, што ня можа прыбыць і прыняць, удзелу ў Конфэрэнцыі дзеля адмовы ў благаслаўленьні арх. Хвядосія. Наступна прачытываюцца лісты з правінцыі, паведамляючыя прычыны, дзеля якіх запрошаныя на Конфэрэнцыю ня могуць прыбыць, а таксама перасылаючыя пажаданьні новатворонаму Беларускаму Праваслаўнаму Камітэту і просьбы да яго аб распачацьці неадкладнай і рашучай барацьцы з русафільскім і чужынскім Духавенствам, як архім. Марозавы,

прат. Кушнёвы, прат. Тучэмскія і інш. Пасьля адчытаньня вышэйуспомненых лістоў, старшыня паседжаньня запрашае Ус. Більдзюкевіча прачытаць даклад аб сучасным палажэньні Праваслаўнае Царквы. Шырака і ўсебакова разгледзіўшы гісторыю Беларускае Царквы, гр. Ус. Більдзюкевіч вобразна ілюструе сучаснасьць Праваслаўя на Беларусі. Русафікатарскія і русафільскія тэндэнцыі, разлад і дэмаралізацыя наплывовага духавенства, як Марозавы і інш., нявыконываньне загадаў Вышэйшае Духоўнае Ўлады, адыход ад народа, зьдзекі і эксплёатацыя яго, а як вынік усяго гэтага аслабленьне і пагароза ўпадку Праваслаўя на Беларусі, а так сама прычына прышчэпліваньня ўсялякіх сэктаў, як бабтысты, мэтадысты і інш. нападкі і вуніцкія захады са стараны шовіністычна-каталіцкага духавенства—абраз які яскрава гаворыць аб сучасным палажэньні Праваслаўнае Царквы і неабходнасьці рэформы. Патрэба вучэньня маладога ўзрастаючага пакаленьня Слову Божаму ў мове роднай стаіць на парадку дня; тое самае з адсутнасьцю беларускай духоўнай, школы, амінаючы існуючаю небеларускаю Духоўнаю Сэмінарыю ў Вільні. У мове беларускай бязумоўна павінны гаварыцца пропаведзі як народу так і тым з Беларусаў, якія трапляюць у войска. Неабходнасьць утварэньне Беларускага Праваслаўнага Камітэта, які склікаў-бы ў належным часе Усебеларускі Праваслаўны Зьезд, а так сама рэформа Царквы і беларусізацыя яе гавораць самы за сябе. Гэтым гр. Ус. Більдзюкевіч даклад канчае. Сабраныя воплескамі а старшыня паседжаньня словамі дзякуе за прачытаны даклад; які так яскрава з'ілюстраваў цяжкое і анармальнае становішча Праваслаўнае Царквы і неабходнасьць яе рэформы. Згодна з далейшым пунктам парадку дня пастулаюць даклады з правінцыі. Прадстаўнік з правінцыі М. Шорэц дакладае, што нягледзячы на тое, што Урад Дзяржавы падтрымоўвае насельніцтва і Праваслаўнаю Царкву, кансісторыя накладае гэткія вялізныя падаткі пад рознымі відамі, як „фунты" і інш., што бурыць гэтым як цэрквы так і дробнае, вясковае духавенства а так сама і народ, які зразумела абураецца і адыходзіць ад Царквы тым больш, што ня ведае куды гэтыя грошы і на якую мэту ідуць. Дакладчык рашуча дамагаецца, каб новатвораны Беларускі Праваслаўны Камітэт высьвятліў і ўстанавіў на што ідуць гэтыя сумы і ў залежнасьці ад іх неабходнасьці прызнаў або адкінуў. Затым просіць Камітэт, каб дамагаўся ён дазволу ад Царкоўных і Сьвецкіх Уладаў на ўтварэньне пры кожным прыходзе спэцыяльных Камітэтаў, аддзелаў Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту, якія супрацоўнічалі-бы з духавенствам на грунце рэлігійна-асьветным і нацыянальным, а дзеля гэтага духаўнікамі паасобных прыходаў павінны быць і па паходжаньню і па духу людзі, калі прынамся ня Беларусы дык блізкія і адданыя Беларускаму народу і яго духовым патрэбам. Інакш зразумелым зьяўляецца і будзе зьяўляцца ўсягды ігнараваньне беларускага сялянства, як русыфікатарскім духавенствам, так і русафільскімі кансысторыямі. Дзеля сьцьверджаньня гэтага дакладчык падае прыклад, калі будучы змушаны атрымаць мэтрыку, мусіў прыяжджаць у Вільню, паміма таго, што мэтрыка была гатовай і нехапала толькі нейкага подпісу, у працягу некалькі месяцаў, аж пакуль за гэта не ўзяўся сам духаўнік з прыходу. Канкрэтна гаворачы, дакладчык рашуча дамагаецца, каб неадкладана была заменена Консысторыя, з якой бязумоўна павінны быць выдалены элемэнты русафільскія і чужыя народу Беларускаму як Марозавы, Кушнёвы, Тучэмскія і інш. Евангельле і пропаведзі, як духовая страва, шлях і падстава духовага ўзгадаваньня, мусяць быць у мове зразумелай—мове беларускай. Тое самае з навучэньнем Закону Божага ў школах пачатковых і сярэдніх. Неабходным гак сама зьяўляецца і рэформа заплаты духаўніком за трэбы, якія павінны быць зьнесены і заменены роўнамернымі, часова акрэсьленымі самаакладамі сялянства. На гэтым дакладчык сваю прамову і закончвае. Наступны прадстаўнік з правінцыі М. Станкевіч сьцьвердзіўшы неабходнасьць дамаганьняў свайго папярэдніка, падкрэсьлівае вялікае значэньне ўтварэньне Беларускага Пра-

васлаўнага Камітэту і яго мяйсцовых папрыходных аддзелаў, якія кіравалі суаднosінамі між духавенствам і прыхаджанамі. Абавязкавым так сама зьяўляецца ўстанаўленьне аднолькавае нормы платы за трэбы, або дзе жадае сялянства ўвядзеньне самаакладаў. Далей неадкладна павінна быць выясьнена справа сьвечнага складу. Наступна забірае голас гр. Ус. Більдзюкевіч, які абураецца на арх. Хвядосія, дзеля яго адмовы благаслаўленьня запрошаных на Конфэрэнцыю духаўнікоў. З другое стараны, дамагаецца ад творанага Беларускага Праваслаўнага Камітэту інтэрвэнцыі ў належных органаў у справе рэвіндыкацыі цэркваў, даглядаючыся ў гэтай дзейнасьці шовіністычна-клерыкальных элемэнтаў і каталіцкага духавенства спробу параджэньня сварак і рэлігійнага антаганізму. У адказ гр. Ус. Більдзюкевічу прамаўляе Т. Вер. які бліжэй акрэсьліўшы і выясьніўшы справу рэвіндыкацыі, сьцьвярджае, што перад днём Конфэрэнцыі быў у арх. Хвядосія, які благаславіў яе і тых хто на ёй меў быць, ня выключаючы духавенства, каб пасьля адмовіць на гэта і задзівіцца „какой с'езд", „какіе белорусcы". Наступны прамоўца гр. Р. Падагель яскрава прадстаўляе неабходнасьць утварэньня ў Вільні сваёй прыходзкай царквы, а гэта з пункту гледжаньня карысьці для прыхаджан беларусаў, як мясцовых, так і для тых беларусаў, якія трапляюць у Вільню з правінцыі. Як найбольш адпаведная, гістарычна абаснаваная як беларуская, зьяўляецца царква Мікалаеўская (у Вільні на Вялікай вуліцы) а таму гр. Р Падагель дамагаецца ад новатворанага Камітэту каб распачаў захады ў належных органаў аб неадкладным пераданьні для Беларусам гэтае Царквы. Далей у дыскусіі забіраў голас студэнт С. Сарока, які яскравае прыкладамі сьцверджваючы ілюструе, ровень маральнага і духовага ўзгадаваньня сучаснага, наплывовага духавенства. Яго неэтычнасьць, а нават амаральнасьць, прафанацыя вопраткі духхоўнае і крыжа, выпадкі ў каторыя мог-бы забраць голас нават пракуратар і гэта ўсё разам спрычыняе тое, што сучасная моладзь беларуская дэманстрацыйна часамі ігнаруе духавенства і царкву. Дакладчык дамагаецца дзеля гэтага ад Камітэту належнай інтэрвэнцыі. На гэтым дыскусыі закончваюцца. Гэткім чынам прадставіўшы сучаснае палажэньне Беларускае Праваслаўнае Царквы і вывеўшы на падставе гэтага праграму працы, адчытываецца сэкрэтаром паседжаньня С. Сарокай рэзалюцыя, якая Конфэрэнцыяй аднагалосна і прынята. Пасьля яе адчытаньня адбываюцца выбары Ураду Беларускага Праваслаўнага Камітэту і сямі сяброў Камітэту. У прэзыд'юм Камітэту ўвайшлі, як: старшыня Т. Вернікоўскі, 1) віцэ-старш. А. Коўш (завочна), 2 віцэ-старшыня Ус. Більдзюкевіч, сэкрэтар С. Сарока, скарбнік М. Маскалік. У лік сяброў Камітэту ўвайшлі: гр. М. Станкевіч, М. Шорэц, Г Матвеяў, Р. Падагель, А. Казановіч, М. Касяк, В. Лукашык. Згодна з далейшым пунктам парадку дня распачынаюцца вольныя прапановы, якімі аўдыторыю, даручае Урад Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту наступныправы:

1) Выслаць дэлегацыю да Мітрапаліта Дзіанісія, належных Міністраў і Ваяводаў з адпаведнай інтэрвэнцыяй па справам Царквы;

2) Залегалізаваць Беларускі Праваслаўны Камітэт, як установу агульна беларускаю;

3) Закладаць папрыходныя ці пablaгачынныя філіі Беларускага Праваслаўнага Камітэту;

4) Склікаць у належным часе агульна-беларускі Праваслаўны Зьезд а так сама склікаць зьезд беларускага праваслаўнага духавенства;

5) Злажыць пратэст у справе рэвіндыкацыі цэркваў;

6) Дамагацца ад Духоўных і Сьвецкіх Уладаў перадачы беларусам Нікалаеўскае царквы, дзеля закладзінаў беларускага прыходу,

7) Высылаць прадстаўнікоў на Усепольскі Праваслаўны Сабор;

8) Каалтаваць Склад Ураду сябрамі Камітэту;

9) Выдаваць свой беларускі, праваслаўны печатны ворган;

10) Мець сваю печатку і штамп;

11) Інтэрв'яваць перад Духоўымі і

Сьвецкімі Уладамі ў справах беларускае праваслаўнае Царквы;

12) Пратакол зацьвердзіць прылажэньнем падпісоў прысутных на Конфэрэнцыі і падпісамі Ураду.

На гэтым старшыня паседжаньня гр Т. Вернікоўскі Конфэрэнцыю зачыняе. Арыгінал падпісалі старшыня *Т. Вернікоўскі* і сэкрэтар *С. Сарока*. Вільня 14 Сакавіка 1930 года.

З аргіналам згодна (—) **Т. Вернікоўскі**
Старшыня Камітэту

Вільня, 15 сакавіка 1930 г.

(—) **С. Сарока**
Сэкратар Камітэту

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

Заслухаўшы даклад сябра Беларускае Ініцыятыўнае Групы па справам Праваслаўнае Царквы і арганізацыі Беларускага Праваслаўнага Камітэту гр. Більдзюкевіча аб сучасным палажэньні Праваслаўнае Царквы ў Заходняй Беларусі, а таксама даклады з правінцыяў і пажаданьні, якія выявіліся ў часе дыскусіяў, мы, прадстаўнікі беларускіх праваслаўных арганізацыяў, праваслаўныя прадстаўнікі ад беларускіх культурна-асьветных інстытуцыяў, прадстаўнікі ад беларускага праваслаўнага насельніцтва і прыходаў, якія сяньня 14 сакавіка 1930 г. сабраліся на гэтай канфэрэнцыі, прыймаючы пад увагу:

што нашая Праваслаўная Царква за ўвесь час свайго гістарычнага існаваньня ішла па шляху аб'еднаньня духавенства з народам і, што да моманту адходу ў склад Расейскае Царквы захоўвала ўклад Саборнае Царквы,

што вураднiцка-сынадальна-кансысторскі ўклад Расейскае Праваслаўнае Царквы выдзяліў духавенства ў асобнаю духоўнаю касту з моцна русыфікатарскім кірункам, якая адыйшла ад народу і парвала з ім раней існаваўшую духоўнаю і нацыянальнаю сувязь, што такі парадак у Царкве ўнёс дэзарганізацыю і дэмаралізацыю як сярод духавенства, так і сярод праваслаўных верных Царквы, а ўсё разам узятае аслабляе ў нас на Беларусі Праваслаўе і вядзе да яго ўпадку, і

што дзякуючы гэтаму, выніқшы разлад у Праваслаўнай Царкве і часовае Яе аслабленьне сьведама выкарыстоўваюцца шовіністычна-клерыкальным грамадзянствам польскім а таксама і рымска-каталіцкім духавенствам у кірунку т. зв. рэвіндыкацыі цэркваў,

што мэморыял, які быў зложаны Яго Блажэнству Мітрапаліту Дзіанісію ад імя Беларускага Культурна-прасьветнага Т-ва „Прасьвета" яскрава праводзіць гэтыя думкі і мы рашуча далучаемся да мэморыялу і падтрымоўваем выстаўленыя ў ім пастуляты,

што ў выніку ўсяго вышэйсказанага пастанавілі:

лічыць неабходным скліканьне ўсепольскага Праваслаўнага Сабору, адбыўшыяся жа выбары прасіць рашуча Яго Блажэнства Мітрапаліта Дзіаніся адмяніць, а да распачацьця новых выбараў Усепольскага Праваслаўнага Сабору спрычыніцца правядзеньню караных рэформаў, якія павінны аздаравіць нашаю Царкву. Перадусім Праваслаўная Царква павінна стаць нацыянальна блізкай да свайго народу і павінна адмовіцца раз на заўсёды ад русафільскіх і русыфікатарскіх тэндэнцыяў, якія цяпер па-

нуюць сярод царкоўнай іэрархіі а дзеля гэтага канкрэтна гаворучы.

Кансысторыі. У першую чаргу рэформа павінна датычыцца духоўных кансысторыяў. Мы цяпер маем як перажытак расейскі ўклад царкоўны з яе вурадніцка-сынодальна-кансысторскімі пачаткамі. Кансысторыя кіруе ўсім жыцьцём епархіі і дзеля гэтага зьяўляецца асяродкам русафільства і русыфікатарства. Са складу кансысторыяў бязумоўна павінен быць выдалены расейскі элемэнт і заменены беларускім у паразуменьні з Цэнтральным Беларускім Праваслаўным Камітэтам, аб чым неадкладна і рашуча прасіць Блажэнейшага Мітрапаліта Дзіанісія і пана Міністра Рэлігіі і Асьветы. Замена Кансысторыі дасьць магчымасьць уплыву на вясковае духавенства і выдаленьне з яго ліку бязумоўна шкадлівых шовіністычна настроеных русыфікатарскіх элемэнтаў.

Беларусізацыя Сэмінарыі. Лічучы шкодным для царкоўна-нацыянальнае справы сучасны склад праваслаўнага духавенства і па духу і ў значнай большасьці па паходжаньню расейскага, тым больш лічыць шкодным сучаснае ўзгадаваньне будучага духавенства ў чужым для народа кірунку, а дзеля гэтага другім, ня менш важным фактарам аздараўленьня жыцьця Праваслаўнай Царквы, павінна быць беларусізацыя духоўнай сэмінарыі і рэформа яе ў сэнсе наданьня ёй рысаў закончанае духоўнае школы.

Царкоўныя камітэты. Дзеля дапамогі настаяцелям прыходаў і царкоўным апякунам у кіраваньні культурна-нацыянальным і гаспадарчым жыцьцём прыходу заснаваць у кожным з ніх з царкоўна-нацыянальных элемэнтаў спэцыяльныя камітэты.

Пропаведзі. Зьвярнуцца да Архіяпіскапаў Віленскага, Горадзенскага і Пінскага аб правядзеньні духавенствам у жыцьцё загадаў Сьвяшчэннага Сыноду з 1923 г. аб прапаведываньні ў мове беларускай. Богаслужэбнаю мовай астацца павінна мова царкоўна-славянская і надалей. Зьвярнуцца з заклікам да мяйсцовых камітэтаў і прыхаджан, каб паведамлялі Цэнтральны Камітэт аб тых духаўніках, якія будуць ухіляцца ад выкананьня гэтага, каб на падставе гэтага дамагацца як у духоўнай, так і сьвецкай улады выдаленьня такіх духаўнікоў з прыходаў.

Выкладаньне Закону Божага. Закон Божы павінен выкладацца выключна ў мове беларускай. Мы лічым немагчымым навучаць дзіцянё верыць у Бога і любіць Яго ў незразумелай для дзіцяці мове, а дзеля гэтага прасіць і дамагацца ў Архіяпіскапаў Віленскага, Горадзенскага і і Пінскага аб выданьні загадаў духавенству аб абавязкавым выкладаньні рэлігіі ў школах у беларускай мове, згодна з загадам Міністэрства Рэлігіі і Асьветы ад 11 траўня 1927 г. за N I—3937/27 і ізноў жа зьвярнуцца з заклікам да мясцовых камітэтаў і бацькоў дзяцей, каб паведамлялі Цэнтральны Камітэт аб тых законавучыцялёх, якія гэта ня будуць выконваць і абмінаць, каб гэтым дамагацца ад Школьнае Ўлады звальненьня такіх законавучыцялёў.

Пропаведзі для войска. Дзеля таго, што расейцы становяць нязначную частку праваслаўнага насельніцтва Польскае Рэспублікі, прасіць адпаведныя духоўныя і вайсковыя ўлады аб вызначэньні на становішчы вайсковых сьвяшчэнікаў Беларусаў ці Украінцаў і выданьні для вайсковых духаўнікоў загаду таварыць пропаведзі дла беларусаў па беларуску.

Беларуская мова у зносінах. Дзеля таго, што сьвяшчэньнікі пры вядзеньні мэтрычных кнігаў зьяўляюцца ўрадоўцамі, прасіць п. Міністра Рэлігіі і Асьветы аб выданьні загаду: 1) аб абавязкавым вядзеньні мэтрычных кнігаў не ў дзяржаўнай і расейскай мове, як да гэтуль вядзецца, а ў дзяржаўнай і беларус-

кай, 2) аб абавязкавым вядзеньні дзелаводства ў кансысторыях, у афіцыяльных зносінах паміж кансысторыямі, благачыннымі, духавенствам ня ў мове расейскай, а беларускай мове, прызнанай Канстытуцыяй Польскае Рэспублікі.

Абарона духавенства.

Духавенству, якое шчыра і выразна стане на царкоўна-нацыянальным беларускім грунце, дапамагаць і падтрымоўваць перад урадовымі Уладамі і інстытуцыямі як у выпадках сьцверджаньня і наданьня абывацельства а таксама ў іншым.

Падаткі на кансысторыі.

Дзеля таго, што цэрквы абложаны вялікімі падаткамі на карысьць кансысторыяў, разьмер якіх нішчыць цэрквы і адбівацець ад іх верных, выясьніць і ўстанавіць праз царкоўныя мясцовыя ўлады і царкоўных апякуноў разьмер заплочаных за апошнія гады кожнаю царквою падаткаў, высьвятліць на якія мэты гэтыя сумы кансысторыямі расходаюцца і ў залежнасьці ад мэтаў і карысьцяў іх і калі яны сапраўды зьяўляюцца неабходнымі--пакінуць у папярэднім разьмеры, альбо ў праціўным выпадку зьменшыць іх.

Справа рэвіндыкацыі.

Дзеля таго, што праводжаньне польскімі шовіністычнымі клерыкальнымі элемэнтамі і рымска-каталіцкім духавенствам т. зв. рэвіндыкацыі цэркваў пацягвае за сабой сваркі і рэлігійнаю ненавісьць сярод беларускага праваслаўнага і каталіцкага грамадзянства, а таксама параджае антаганізм паміж беларускім і польскім грамадзянствам, лічыць гэтае становішча анармальным і шкодным як для беларускага, так і польскага грамадзянства, а дзеля таго і дамагацца ад Ураду інтэрвэнцыі ў гэтай справе ў вышэйшай Рымска-Каталіцкай іэрархіі, апіраючыся на §§ 19 і 20 Конкордату Польскае Рэспублікі з Апостальскай Сталіцай.

Прадсаборныя сабраньні.

Дамагацца скліканьня прадсаборных эпархіяльных сабраньняў з духоўных і сьвецкіх прадстаўнікоў ад прыходаў, а так сама з прадстаўнікоў праваслаўных культурных і асьветных беларускіх інстытуцыяў, на якіх павінен быць падгатаваны матэр'ял для будучага Ўсепольскага Праваслаўнага Сабору.

Усепольскі Праваслаўны Сабор.

Дамагацца скліканьня Ўсепольскага Праваслаўнага Сабору з прадстаўнікоў як ад духавенства, так і прыхаджан, выбраных на падставе дэмакратычнай выбарчай ардынацыі, які павінен быў бы зацьвердзіць нутраны ўклад Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, якібы аб'яднаў праваслаўных людзей у Польшчы ў Адзінаю, Сьвятую, Саборную і Апостальскую Царкву ў Польшчы.

У выпадку няпрыхільных адносінаў Эпархіяльных Уладаў да нашых патрэбаў і не здавальненьне іх—пастанаўляем распачаць па ўсіх прыходах рашучаю акцыю маральнага і матэр'яльнага байкота расейскага духавенства, а так сама акцыю ўстрыманьня як заплатаў за трэбы духавенству, так і падаткаў на кансысторыі. Даручаем выбранаму на гэтай Конфэрэнцыі Беларускаму Праваслаўнаму Камітэту: 1) распачаць працу па скліканьню Ўсе беларускага Праваслаўнага Зьезду і гэткі ў належным часе склікаць, і 2) давясьці да ведама аб гэтых пастановах як Вышэйшую Духоўную Ўладу, так і Сьвецкую.

Арыгінал падпісалі старшыня *Т. Верніковскі* і сэкрэтар *С. Сарока.* Вільня 14 сакавіка 1930 года.

З аргіналам згодна (—) **Т. Вернікоўскі**
Старшыня Камітэту.
(—) **С. Сарока**
Сэкрэтар Камітэту.

Вільня, 15 сакавіка 1930 г.

## Беларускі рэлігійны гімн.

Краіну родную, Беларусь бяздольную,
Маці гаротную, Божа храні,
І сыноў яе бедных, працаю замучаных
На дарогу сьветлую, Божа направ
Волю, сьвядомасьць, брацтва і роўнасьць
Шчасьлівую долю ім, Божа, пашлі.

## Хвіліны Іскупленьня.

Штось вокаль сягоньня авеяна страхам,
Штось бурна і жудасна дыша паветра,
Штось сонца дрыгочыць нябачаным жахам
Зблукаліся хмары, хоць ціха бязьветра,
Штось птушкі суціхлі мо ў нейкай трывозе,
Штось зьверы дзікія схавались ў бярлозе...

Штось будзе страшное! ўсё нема прарочыць —
Хоць поўдзень йшчэ самы, дванаццаць гадзінаў,
Ўсё дзіўна сьціхае, гавора аб ночы,
Чакаецца ўсюдых страшная часіна...
Штось будзе, надходзіць! Малітвы... трывога...
Страшное чаканьне — бьець з твараў жывога...

Штось сяньня Гальгофа так поўна народам,
Штось плач з туль нясецца пад рогаты сьмеху,
І вoi ідуць там бязконцым чародам —
Хто сяньня расьпнецца? што гэткі суцеху!
Напэўна спаткае тут кара зладзея,
Што сьвет цэл' тыраніў разбойніцкай дзеяй!?

Бось трэцяй гадзіны хвіліна мінула
І сталася дзіва! Здрыгнулась зямелька,
Схавалася сонца, шыр енкнула гулам,
Грымоты пярунаў з маланак прамелькам
Разсеклі сьвятыні, завесы парвалі
І бурна на моры разгойкалі хвалі.

І сталася дзіва—прырода сказала
Стыхійным пратэстам каго засудзілі,
Каго крыж Галгофы расьпяў людзкім шалам!
А Цела Сьвятое сьхінуўшысь ў бязсільлі
Адвечнага грэху праклён іскупляла
І падшаму сьвету Дзень Новы казала...

*С. С.*

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ ПР. ЦАРКВЫ і РАСЕЙЦЫ.

Стварэньне Белар. Правас. Камітэту выклікала ў прэсе пэўны водгук.

Польская прэса проста адзначыла паўстаньне Бел. Прав. Арганізацыі, беларуская прэса, як заўсёды не абыйшлася без камэнтарыяў. Як маладая яшчэ наша беларуская прэса ня ўмее быць спакойнай і паважнай і зьмешывае самую ідэю з сваімі асабістымі парахункамі ў адносінах да асобаў, якія ўваходзяць у склад арганізацыі. Ну, ды нічога! Старыя паразумнеюць, з часам адыйдуць, маладыя іх заменяць, і будзем калі-небудзь мець прэсу эўрапэйска-паважнаю.

Расейская сталічная прэса спакойна адазвалася аб паўстаньні Бел. Прав. Камітэту. Затое віленская прэса (газ. „Наша Жызнь“), моцна разгневалася. Як так магла паўстаць самастойная Беларуская Праваслаўная Арганізацыя. Гэта-ж ёсьць нарушэньне правоў расейскага „меншенства!“ Праваслаўная Царква гэта нашая, Расейская! А тут беларусы, якія населяюць гэтыя зямлі, хаць мы расейцы, іх і ня прызнаем, адважываюцца заяўляць, што Праваслаўная Царква на Беларусі павінна быць Беларускай! І вось гэты гвалт, які паднялі расейцы, гэта зусім зразумелая рэч.

Трэба адзначыць, што расейцы моцна абаснаваліся ў Вільні і зарганізаваліся. Яны добра разумеюць, што Праваслаўная Царква, гэта апошняя нітачка, якая можа вязаць Заходнюю Беларусь з Расеяй. Пастараліся акружыць сваёй апекай духоўныя ўстановы, духоўную сэмінарю і духавенства. Апанавалі духоўную кансысторыю так, што там няма ані воднага беларуса, (у духоўнай сэмінарыі беларус толькі вучыцель, які выкладае беларускую мову).

Праз кансысторыю стараліся ўплываць на духавенства, якое напалову чыста расейскае, а напалову, хаця па паходжаньню і тутэйшае, моцна зрусыфікаванае. Стараліся трымаць духоўны мір над гіпнозам, што прыдзе час і зноў паўстане: адзіная і нядзельная. Што беларусаў няма, што беларускай мовы няма, называючы нашу мову простай, мовай сапсутай расейскай, на якой расейскаму сьвяшчэньніку „говоріть не годзітся“. Калі зьяўляўся часам нейкі сьвяшчэнік беларус то яго зараз-жа пачыналі закідываць балотам, абвінавачываць у бальшавізьме пазбаўляць яго права служэньня і г. д.

Расейцы добра разумелі, што Пр. Царква гэта апошняя іх пляцоўка, якую яны яшчэ маюць у нашым краі. Ясна, што без барацьбы, і то барацьбы самай рашучай, яны не аддадуць гэтай пляцоўкі. Так што абурэньне, якое выклікала ў расейцаў паўстаньне Бел. Пр. Камітэту зусім зразумелае. Зразумела таксама іх выступленьне ў прэсе, дзе яны стараюцца дыскрэдытаваць самую ідэю беларусізацыі Пр. Царквы, абліваючы памыямі арганізатараў Камітэту.

Але-ж мы павінна рашуча і моцна сказаць ім: рукі проч ад Царквы! Выпрыбышы! і не павінны узірацца ў Сьвятое Сьвятых Беларускага Ннароду, які займае гэтую зямлю з прадвеку.

---

Яшчэ да заснаваньня Бел. Пр. Камітэту, беларусы ўжо няраз падымалі пытаньне аб беларусізацыі Царквы. Але выступалі заўсёды неарганізавана, так што Бел. Пр. Сход, які адбыўся 14 сакавіка 1930 года, гэта першая арганізаванае выступленьне Прав. Беларусоў па гэтаму пытаньню, а Белар. Прав. Камітэт гэта першая Беларуская Праваслаўная Арганізацыя, якая адважылася распачаць барацьбу з русыфікатарствам, якое пануе сярод нашае Царквы, і падыйсьці да гэтай справы арганізавана, ясна прадстаўляючы сабе ўсе труднасьці гэтай справы і тую вайну, якую ёй прыдзецца вясьці, як з расейскім арганізаваным грамадзянствам, так і з русафільскім, аб'еднаным у адну духоўную касту, духавенствам.

*У. Б.*

# НЕАБХОДНАСЬЦЬ САБОРНАСЬЦІ.

Падставай кананічнага ладу ў праваслаўнай царкве ёсьць саборнасьць. Ужо ў 51 годзе па Нараджэньні Хрыста калі паўстала пытаньне аб тым, як прыймаць ў Хрыстову Царкву паганцаў, ці выконваць над імі Маісеяў закон абрэзаньня, ці ня выконваць, дык справу гэтую вырашыў ня хто небудзь адзін з апосталаў, а яна была вырашана ўсімі Апосталамі на саборь у Ерусаліме. Гэты Сабор паслужыў падставаю і прыкладам кіраваньня царквой на будучыню. Усе галаўнейшыя пытаньні ў царкоўным жыцьці вырашаліся пасьля гэтага на Сусьветным Саборы, калі справа была агульная і закранала ўсю Царкву, або некалькі паасобных цэркваў, і на краявых, калі справа датычыла толькі якое-небудзь аднае царквы.

Сусьветных Сабораў Праваслаўная Царква лічыць сем. Краявых было шмат. Найвялікшае значэньне з апошніх для царквы маюць дзевяць. Пастановы гэтых сабораў зьяўляюцца аснаўнымі законамі (канонамі царкоўнага жыцьця і да нашае пары).

Які-ж быў склад сабораў?

Ёсьць дадзеныя аб тым, што на сусьветных і краявых саборах IV—IX стагодзьдзяў былі ня толькі япіскапы, сьвяшчэньнікі ды дзіяканы, але і міране. Ці мелі міране на гэтых саборах права голасу рашучага, ці толькі дарадчага, аб гэтым няма дакладных вестак. Але калі-б міране мелі права голасу толькі дарадчага — дык і тады пастановы сабораў былі выяўленьнем царкоўнай волі і розуму ўсяе царквы, бо духавенства ўсіх ступеняў было выбарнае.

У краявых саборах пазьнейшых часоў міране прыймаюць ужо больш актыўны ўдзел з правам голасу рашучага.

Асабліва вялікую ролю згулялі міране ў царкоўным жыцьці нашае бацькаўшчыны Беларусі і Ўкраіны ў XYI—XYII стагодзьдзях.

Калі наша бацькаўшчына падпала пад уладу Маскоўшчыны, дык разам з праявамі самастойнасьці нацыянальна грамадзкай былі задушаны імкненьні народу да самастойнасьці ў жыцьці царкоўным. Стварыліся варункі пры якіх праваслаўная царква на Беларусі з вонкавага боку нібы „процветала“, а ў запраўднасьці рэлігійная сьвядомасьць народу была вельмі слабая. Прычынаю гэтага была адарванасьць прысыланага з Расеі чужога духавенства ад народу, падзел адзінага духоўнага цела на ўладароў і падуладных. [illegible]ынікам такога палажэньня была ня толькі страта ўплыву духавенства на народ, але і варожасьць паміж імі. Праз увесь час калі Беларусь знаходзілася пад Маскоўшчынай, краявыя царкоўныя саборы ня склікаліся, народ быў аддалены ад кіраваньня Царквой, Ёй кіравалі ўрадоўцы.

Такое палажэньне аставалася на Беларусі калі яна адыйшла пад уладу Польшчы. Замест таго каб зараз-жа пасьля вайны распачаць будову царкоўнага жыцьця на грунце саборнасьці, быў уведзены сынадальна-кансысторскі лад, які і захоўваў толькі в о н к а в ы я ф о р м ы царкоўнага жыцьця, але запраўднага жыцьця ня было: іэрархія духавенства і народ засталіся адарванымі адныя ад другіх, не зьвязаныя „адзінымі вусты і адзіным сэрцам.

Імкненьні абаперціся на царкоўнае грамадзянства пачынаюцца толькі ў канцы 1927 г. але імкненьні гэтыя спачатку былі вельмі слабыя і толькі пагроза адарваньня каталіцкім духавенствам блізка трэцяе часткі цэркваў высунула запраўднае жаданьне скліканьня сабору.

Аднакжа праграма працы сабору і сыстэма выбару сяброў не пераконвалі ў тым, што такі сабор паправіць царкоўнае жыцьцё. У сучасную пару атэізму, сэктанства, зьяўляецца неабходным духовае перабудаваньне перадусім духавенства, каб аздаровіць царкоўнае жыцьцё. Але сярэдняе духавенства так загнана і забіта сынадальна-кансысторскімі і мяйсцовымі ўрадамі, што яно ня можа самастойна стаць на ногі так моцна, каб выявіць творчую волю ў царкоўным жыцьці, калі яно нават і ў большасьці ў параўнаньні з міранамі пападзе на сабор.

Апрача гэтага на сабор пападуць па

прынятай выбарнай сыстэме тыя, хто „благонадёжен“ з поглядаў кансыстoрыяў, бо-ж выбары робяць кансысторыі і вызначаныя імі благачыныя.

Пры такім складзе сабору замест паправы ён толькі можа ўзмацаваць сучаснае палажэньне царквы.

Разумеючы гэта ўрад у асобе Міністра Вызнаньняў і Асьветы не дае згоды на скліканьне такога сабору, вымагаючы ад духоўнае ўлады зьмены выбарнае сыстэмы і праграмы працы сабору.

Прынцыпова можна і не згаджацца з умяшацельствам сьвецкае ўлады ў унутраныя справы царкоўнага жыцьця, але калі мы самі ня хочам, ці ня здольны выйсьці з таго тупіку, у якім знаходзімся, дык ня можам адмаўляцца ад дапамогі другіх.

З асаблівым даверрам, забітае і бяспраўнае сярэдняе і ніжэйшае духавенства павінна аднясьціся да імкненьня ўраду вызваліць яго з яго сучаснага палажэньня на карысьць царквы, народу і яго асабістай. Яго голас павінен быць моцным і рашучым на саборы.

Дасягнуць гэтага можна толькі тады, калі выбары на сабор будуць адбывацца не пры сучасным складзе кансыстoрыяў і благачыных, зацікаўленых у захаваньні на будучыню сучаснага ладу, а пры новым складзе з людзей адданых царкве і роднаму народу.

Таму агульным лёзунгам беларускага царкоўнага грамадзянства павінна быць: спачатку рэарганізацыя кансысторыяў, а пасьля выбары на сабор.

*К.*

# УРАДОВЫ КРЫЗІС у ПОЛЬШЧЫ і СОЙМ.

Выражэньне з боку апазыцыі Соймавай недаверыя двум міністрам з габінэту прэм'ер-міністра праф Бартля міністру грамадзкай апекі і працы Прыстару і міністру Рэлігіі і Асьветы Чэрвінскаму спавадавала адстаўку ўсяго Ўраду з прэм'ерам Барталем, на чале. Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў маршалку Сэната праф. Шыманьскаму стварэньне Ураду.

Праф, Шыманьскі заявіў, што хоча зрабіць справу міравога кампрамісу паміж соймавай апазыцыяй і кіруючымі коламі ў Польшчы. Соймавыя фракцыі пайшлі насустрэчу высілкам праф. Шыманьскага хоць і адносіліся крытычна да магчымасьці мірнага ўладжньня паўстаўшага ўрадовага крызіса.

## Варункі Соймавай апазыцыі.

Соймавая апазыцыя, абяцаючы праф. Шыманьскаму сваё падтрыманьне выставіла наступныя варункі:

1) Новы ўрад павінен точна выпаўняць канстытуцыю і законы.

2) Зьмена канстытуцыі павінна адбывацца законным шляхам.

3) Суд, адміністрацыя і армія павінны быць незалежныя ад уплываў ўсіх партыяў.

4) Самаўрады павінны быць захаваны істотна.

5) Адміністрацыйная самаволя павінна быць спынена—з аддачай пад суд вінаватых у нарушэньні законаў і правоў грамадзян.

6) Усялякія субсыдыі з дзяржаўнага скарбу на прыхільныя да ўраду органы прэсы павінны быць спынены.

У канцы сваей дэкляарацыі апазыцыя т. зв. „цэнтралев“ падкрэсьліла, што яна вымагае, каб Урад зьвярнуў увагу на гаспадарчы крызіс у Польшчы, а таксама каб міністры новага ўраду панасілі-б адказнасьць за сваю дзейнасьць а ня былі-б толькі выканаўцамі волі марш. Пілсудзкага.

## Чатыры пункты маршалка Пілсудзкага

Праф. Шыманьскі прадставіў гэтую дэкляарацыю марш. Пілсудзкаму, які за-

явіў, што ён згодзіцца ўвайсьці ў склад Ураду толькі тады; калі Сойм выпаўніць наступныя чатыры пункты.

1) Паслы ня будуць умешывацца ў справы, датычачыя і асабовага складу ўраду.

2) Фракцыі Сойму ня будуць умешывацца ў тое, як будзе выконвацца ўрадам прыняты ўжо Соймам бюджэт.

3) З скарбовага закону будзе выключаны параграф 6 (які рэгулюе перарасходы, робленыя паасобнымі міністрамі проці каштарысаў іх міністэрстваў).

4) Сойм ня будзе зьбірацца ў працягу ня менш, як поўгоду...

## Адмова праф. Шыманьскага ад стварэньня габінэту.

Праф. Шыманьскі запрасіў да сябе на нараду, прадстаўнікаў усіх соймавых клюбаў, якіх азнаёміў з варункамі мар. Пілсудзкага і заявіў ім наступнае:

„Вось варункі марш. Пілсудзкага, без якога ніякага ўраду ў Польшчы стварыць немагчыма. Згаджаюся цалком з гэтымі варункамі, бо згаджаюся заўсёды з усім, што робіць марш. Пілсудзкі. Дзейнасьць гэтага чалавека—такая надзвычайная, што часта яе паасобныя ўчынкі можна зразумець толькі праз 30 гадоў“.

Усе фракцыі Сойму, апрача клюбу Б. Б. гэтыя варункі марш. Пілсудзкага адкінулі, падкрэсьліваючы, што гэтыя вымаганьні мар. Пілсудзкага крыўдзяць правы парлямэнту і паслоў Сойму.

Пасьля такога адказу з боку прадстаўнікоў соймавых клюбаў праф. Шыманьскі зараз-жа зьвярнуўся да пана Прэзыдэнта якому, асьведчыў што ён зракаецца ад місіі тварэньня Ураду.

П. Прэзыдэнт, прыняў дымісію п. Шыманьскага і даручыў стварэньне ўраду паслу Яну Пілсудзкаму, роднаму брату марш. Пілсудзкага.

## Пасол Ян Пілсудзкі творыць Урад

Атрымаўшы місію тварэньня габінэту пасол Ян Пілсудзкі таксама як і праф. Шыманьскі пачаў пэртрактацыі з прадстаўнікамі Соймавых клюбаў. А тым часам канчаўся ўжо другі тыдзень урадовага крызісу і прыпыненьня працы законадаўчых палат—Сойму і Сэнату—у часе бюджэтнай сэсіі, якая мусіла быць закончана да 31 сакавіка.

## Зачыненьне бюджэтнай сэсіі Сойму

Маршалак Сойму Дашыньскі каб закончыць бюджэтную сэсію Сойму ў тэрмін устаноўлены Канстытуцыяй вызначыў паседжаньне Сойму на 29 сакавіка, прычым на парадку дня стаяў толькі разгляд паправак зробленых Сэнатам да бюджэту. І ў назначаны тэрмін 29 сакавіка паседжаньне Сойму адбылося.

Бюджэт быў прыняты і зараз-жа бюджэтная сэсія Сойму была зачынена дэкрэтам п. Прэзыдэнта.

## Пасол п. Славак прэм‘ер—міністраў

29-га сакавіка Пасол Ян Пілсудзкі зрокся місіі тварэньня габінэту і п. Прэзыдэнт даручыў стварыць Урад старшыне Клюбу Б. Б. палкоўніку паслу на Сойм Валерыю Славку, які таго-ж самага 29 сакавіка прадставіў на зацьверджаньне п. Прэзыдэнта лісту навага Ураду, якая і была п. Прэзыдэнтам прынята і зацьверджана.

Вось склад новага габінэту міністраў.

Валеры Славак, пасол на Сойм старшыня Рады міністраў. Гэнрык Юзэўскі Міністар па справах Унутраных, Аўгуст Залескі сэнатар—міністр па справам загранічным, Маршалак Язэп Пілсудзкі—вайсковы міністр, Станіслаў Цар—міністр юстытуцыі, Д-р Славамір Чэрвінскі—міністр вызнаньняў рэлігійных і Асьветы, д-р Янта Полчынскі—міністр земляробства, інж. Альфонс Кун—міністр камунікацыі, праф. д-р Максыміліан Матакевіч—міністр работ публічных, Александр Прыстар—міністр працы і апекі грамадзкай, праф. Вітальд Станевіч—міністр рэформаў рольных, інж. Ігнацы Бёрнэр—міністр почты і тэлеграфу, Ігнацы Матушэўскі—кіраўнік міністэрства Скарбу, інж. Квяткоўскі пасол на Сойм—кіруанік міністэрства Промыслу і Гандлю.

Абурэньне Соймавай Апазыцыі. Такі склад Ураду, дзе на чале стаіць старшыня клюбу Б. Б. і дзе пазасталіся міністры Прыстар і Чэрвінскі, якім Сойм адмовіў у даверры выклікала абурэньне ў соймавай апазыцыі, якая пастанавіла склікаць надзвычайнае паседжаньне Сойму.

Пад гэтым дамаганьнем падпісалася больш 148 пасloў, што паводле Канстытуцыі зьяўляецца законным і надзвычайная сэсія склікана будзе.

На парадак дня пастаўлены пытаньні: аб дадаткавых крэдытах 1927—28 году: аб б. міністры Скарбу Чэховічу, аб агульным эканамічным палажэньні Дзяржавы, аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў і аб выражэньні недаверра Ўраду прэмера Валерыя Славка.

Трэба думаць, што Сойм склікaны будзе; але па скліканьню будзе зачынены і нават магчыма будуць вызначаны новыя выбары.

# XII УГОДКІ 25 САКАВІКА 1918 ГОДА.

Дзень 25 сакавіка з года ў год сьяткуецца беларускім народам.

25 сакавіка 1918 года народныя выбраньнікі беларускага народу ўрачыста абвесьцілі ў Менску Незалежнась Беларусі. Шмат ужо часу мінула ад гэтай урачыстай хвіліны, шмат зьмянілася! Усходняя частка беларускай тэрыторыі знаходзіцца пад панаваньнем чырвонай Масквы, Заходняя ўвайшла ў склад Польскае Дзяржавы. Як жывецца нашым братом па другі бок кардону мы добра ведаем, ведаем, што бальшавікі, стварыўшы беларускую Савецкую Рэспубліку, стварылі толькі фікцыю самастойнасьці. А цяпер, калі ім гэта стала непатрэбным, імкнуцца задусіць нацыянальны рух зусім.

У складзе Польскае Дзяржавы беларусам таксама не салодка жывецца. Шавіністычная частка польскага грамадзянства разглядае нацыянальны беларускі рух, як рух рэвалюцыйны. У іх вачох беларус і бальшэвік гэта адно і тое самае.

І дзеля гэтай прычыны зусім зразумела што нацыянальныя імкненьні, як напрыклад акцыя беларускага школьніцтва, і спатыкаюцца ў сваім поступе на моцны адпор з боку шавіністычных польскіх групаў.

Беларускія палітычныя і грамадаўскія дзеячы разьбіліся на партыі, групы і групкі, і пачалі змагацца адзін з адным, а гэтым самым аслабляць і сябе самых і ўвесь нацыянальны рух.

Нават у гэты дзень, дзень урачыстага сьвята нацыянальнага ідэалу, да якога імкнецца кожны здарова-нацыянальны народ і тут незмаглі аб'еднацца; нават памаліцца разам не маглі!

Частка малілася ў Пятніцкай царкве, дзе малебен служыў беларускі сьвяшч. А. Коўш, другая пайшла ў Мікалаеўскую царкву, дзе адбыўся малебен з ініцыятывы сэнатара У. Багдановіча.

І на гэтым урачыстым малебне за беларускі народ, за яго нацыянальны ідэал. а. пратаірэй К. сказаў пропаведзь у мове беларускай, дзе казаў: „*мы беларусы* павінны імкнуцца да нашых нацыянальных ідэалаў!“ А гэты самы а. нядаўна з царкоўнай амбоны казаў, „мы палякі,“ а заўсёды кажы—мы расейцы...

Што-ж можа сказаць беларускаму народу аб яго вышэйшых нацыянальных імкненьнях, аб яго вышэйшых нацыянальных ідэалах такі сьвяшчэньнік-інтэрнацыяналіст? Але нават калі і скажа чы будзе гэта ад душы і сэрца?

І вось такую правакацыю беларускага нацыянальнага сьвята сьвядома дапусьціў старшыня Белар. Нац. Кам. сэнатар Багдановіч, які відаць (?!) не хацеў, каб малебен служыў беларускі сьвяшчэнік, і каб аб вышэйшым беларускім нацыянальным ідэале казалі вусны беларускага сьвяшчэньніка шчыра адданага ідэі беларускасьці.

Пасьля малебнаў у цэрквах і ў касьцеле Сьв. Мікалая адбыліся ўрачыстыя акадэміі, наладжаныя Віленскай Бела-

рускай Гімназіяй і Белар. Нацыянальным Камітэтам.

Акадэмія ў Гімназіі адбылася а 12 гадз. для вучняў гімназіі. Рэфэрат адчытаў гр. А. Луцкевіч, у якім вытлумачыў вучням гісторыю дня 25 сакавіка 1918 году і яго значэньне для беларускага народу.

Наступна прачытаў рэфэрат студ. Ст. Станкевіч.

Урачыстая Акадэмія, наладжаная Нацыянальным Камітэтам адбылася вечарам у салі Купецкага Клюбу.

На Акадэміі, апрача беларускага грамадзянства, былі прысутнымі госьці ад украінцаў, літоўцаў, жыдоў і расейцаў.

Кс. Гадлеўскім быў адчытаны рэфэрат на тэму: „Разьвіцьцё Беларускай незалежнай думкі ад аўтаноміі да незалежнасьці,“ у якім рэфэрэнт высьвятліў кірунак і этапы беларускага нацыянальнага руху за час ад 1903 г., году паўстаньня „Беларускай Рэвацылюйнай Грамады“ да часу 25 сакавіка 1918 г. Рэфэрэнт з сумам канстантуе што Бел. Народ неатрымаў сваёй незалежнасьці таму толькі, што беларусы ў сваёй дзеяльнасьці часта арыентаваліся на чужую помач і забывалі аб тым, што незалежнасьць не даецца а бярэцца.

Разам з рэфэрэнтам, яго словамі мы павінны сказаць, што ў далейшай сваёй дзеяльнасьці нам трэба паглыбляць сваю культуру, трэба зьвярнуць сваю ўвагу на ўзрост і ўзмацненьне эканамічнага жыцьця.

Калі пойдзем гэтым шляхам, і скажам ад сябе калі пойдзем дружна, не разьбіваючыся як цяпер, не аслабляючы самы сябе грызьнёй і лаянкай, то можа як дайшлі да незалежнасьці de jure дойдзем калі-небудзь і да незалежнасьці de facto.

# Закладайце мейсцовыя праваслаўныя Камітэты!

Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт па беларусізацыі Царквы ў сваім Статуце прадбачывае стварэньне па прыходам мейсцовых Прав. Камітэтаў, якія павінны зьяўляцца філіямі Ц. Б. П. К.

На мэце гэтых Камітэтаў ляжыць як дапамога Настаяцелю царквы ў кіраваньні жыцьцём прыхода так і ў праводжаньні па мейсцох заданьняў Ц. Б. П. К.

Усе балячкі Нашае Царквы больш усяго адчувае правінцыя і высьвятліць іх могуць толькі мейсцовыя камітэты, хоць-бы прыкладам справа падаткаў на рэч кансысторыяў.

Ідуць гутаркі, што гэтыя падаткі кладуцца вялікім цяжарам як на праваслаўнае насельніцтва так і на цэрквы.

Вось-жа, даць сьцісла акрэсьленыя дадзеныя аб гэтым маглі бы толькі Настаяцелі прыходаў і царкоўныя старасты.

Але гэтым актам яны бы выступілі адкрыта процў сваёй царкоўнай улады, і ня кожны сьвяшчэньнік адважыўся бы на такі крок.

Вось тут першая роля камітэту, які як безпасярэдня заінтэрасаваная асоба гэтую справу і мог-бы высьвятліць.

Адным з галоўных заданьняў Ц. Б. П. К. ёсьць імкненьне прыблізіць духоўнага пастыра да народу, бо фактычна русафільскія тэндэнцыі якія пануюць сярод нашага духавенства ёсьць анамаліяй, а тым балей анамальліяй зьяўляецца ненавісьць да ўсяго беларускага з боку духавенства. Правесьці гэта ў жыцьцё мы можам толькі пры безпасярэднім удзеле і дапамозе з боку мяйсцовых камітэтаў.

Пытаньне, як залажыць гэтыя камітэты.

У кожным прыходзе знойдуцца сьвядома царкоўныя нацыянальныя адзінкі якія па сваёй ініцыятыве могуць склікаць сход сваіх прыхаджан; на гэтым сходзе выбіраецца камітэт з 3 асоб: старшыні, віцэстаршыні ён жа і скарбнік і сэкратар. Арыгінал пратаколу сходу высылаецца ў Ц.Б.П.К. у Вільні Завальная 6 кв. 5 для легалізацыі яго, а адпіс заставіць у сябе. Залегалізаваны мейсцовы Камітэт зьяўляецца ўжо праўнай юрыдычнай асобай, можа мець свой штамп і печатку.

Як праўна—юрыдычная асоба ўжо мае права афіцыяльна выступаць па ўсім справам свайго прыхода.

Вялікую ролю такія камітэты могуць

адыграць пры выборах прадстаўнікоў Ўсепольскі Праваслаўны Сабор на які ад Праваслаўнай Царквы на Беларусі павінны быць дэлегаваны прадстаўнікі Беллрусы, а не расейцы як гэта сталася цяпер, калі мы не мелі сваей Праваслаўнай Арганізацыі.

Ц. Б. П. К. горача звкл!кае усіх сьвядома нацыянальных Праваслаўных Беларусаў арганізавацца і закладаць свае Камітэты.

# ВЕСТКІ.

## Гэты дык адкрыта!

Шмат хто чуў хіба і пра духоўнаю Сэмінарыю ў Вільні і пра „слаўную“ Віленскую Кансысторыю, але найдаўжэй хіба будзе памятаць пра рэктара Сэмінарыі, ён-жа разам і сябра Кансысторыі прат. Тучэмскага. Ніхто яму хіба ня ёсьць так нялюбым і зьненавіджаным (калі не страшным) як беларусы і беларуская мова. Маем гэтага цікавыя (хоць вельмі горкія і балючыя) прыклады. Вось-жа, калі ў Кансысторыі была раз неяк парушана справа вядзеньня дзелаводзтва ў мове беларускай, замест расейскай, дык паважаны рэктар так абурыўся на гэта, што з гарачкі (але хутчэй заўсё, добра абдумаўшы!) крычэў што ўжо лепш хай будзе ўведзена хоць якая мова, ды толькі не беларуская. Пасьля гэтага зусім зразумелым стане кожнаму чаму пры апошнім матуральным выпуску зрэзаліся тры. . беларусы абітур'енты, Філіповіч, Гурынович і яшчэ адзін, між імі малады беларускі паэт. Зразумелым будзе хіба і тое, чаму яны былі змушаны апынуцца ў польскай, каталіцкай духоўнай акадэміі. (Хто за ніх маральна адказным будзе беларусы не запомняць!) Яшчэ больш зразумелым зьяўляецца хіба і тое, што амаль усе вучні малодшых клясаў (пачынаючы ад першае), хоць-жа самі і беларусы, аднак добра завучылі і добра памятаюць (бадай лепш за запаведзі Хрыстовы) гэткую дэфініцыю—„белорусы это большевікі і комуністы“. Бедныя дзеці прызнацца нават баяцца што іх бацькі гавораць па беларуску, што з прадвеку тут жылі, (калі і ня чулі нават што такога „большевікі“ і „комуністы“). А чаму? Адказ дадуць гэтыя-ж дзеці калі ўзрастуць, а сяньня—(сяньня глянь яшчэ атрымаў-бы два па павядзеньню). Нічога, паважаны духаўніку, забыўся ты аб чым вучыў Хрыстос, Яго найвялікшаю запаведзь, згрызай, ламай супакойна дзіцячыя душы, але і памятай тое, што з кожным годам узрастае і магутнее сьведамасьць беларускага „Я“, што ўзрастаюць рады і беларускай інтэлігэнц і і духаўнікоў а іх ты ўжо не застрашыш! Памятай паважаны рэктару і тое, што за сваю дзейнасьць гэту адкажаж як духаўнік, перад Хрыстом, законы катарага ты здважыўся ўзьдзеўш ыкрыж праводзіць у жыцьцё, як рэктар і апякун маладых душаў, адкажаш і перад Богам і перад тымі каму сяньня калечыш душы. Кідайся і падалей рэктару, але памятай кулаком ня змусіш замаўчаць голас душы. Малых ты можаш застрашыць, але старэйшых сваіх гадунцаў, якія ўжо сяньня ў большасьці сьведамыя беларусы, ты двойкай не за страшыш, а пазорна асьмяшыся!

SK

## Кансысторская мараль.

Нядаўна малодшы сьв. астрынскае царквы Антон Зубовіч быў пераведзены ў Галубічы. Настаяцель галубіцкае царквы Пятро Бацян, не атрымаўшы паведамленьня ад кансысторыі аб сваім пераводзе, зразумела не пажадаў перадаць прыход сьв. Зубовічу.

Галубічы залічаюцца да найлепшых прыходаў Віленскае Эпархіі — дык сьв. Зубовіч адкрыта заявіў, што яму здабыча гэтага прыходу вельмі дорага каштавала, і ён гэтага прыходу ня ўступіць.

Ну і людзі! Калі ўжо такія парадкі

заведзены, дык давалі-б хаця ўжо вольныя мейсцы, бо-ж запраўды крыўдна чалавеку: сьв. Зубовічу вельмі дорага каштавала здабыцьцё паперы на прыхода, прыехаў дык там зноў ня пушчаюць.

Але і гэта ня ўсё. Сьв. Зубовіча выклікалі ў Кансысторыю і ў прысутнасьці сьв. П. Бацяна і В. Станкевіча два сябры кансысторыі пагражалі, стукаючы па стале кулакамі, што пашлюць яго на пасаду псаломшчыка за тое, што ён гаворыць аб каштоўнасьці здабыцьця галубіцкага прыходу. Аднак-жа паслалі не ў псаломшчыкі, а ў Настаяцелі таго-ж галубіцкага прыходу.

Цяпер няведама, ці спачуваць а. Зубовічу, што яго скубалі і плакаць не давалі, ці віншаваць яго з тым, што ў яго і зубы засталіся на мейсцы, а ў дадатак і Галубічы здабыў.

Замест пагрозаў належала-б вызначыць сьледства, але якая-ж варона брудзіць ў сваё гняздо?

Можа-б гэтай справай зацікавіўся Архіяпіскап Хвядосій, але нешта ня верыцца. Ня верыцца і ў тое, каб высьвятленьню гэтага дапамог і сябра кансысторыі „тоже белорусс" Кушнёў.

## Чужынцы дзеляць царкоўны скарб.

Тэхнічныя працаўнікі Віленскай Дух. Кансысторыі папрасілі ў канцы 1929 г. дабаўкі сабе да пэнсіі па 30—40 зл. у месяц. Зьезд благачынных згадзіўся на гэта. Карыстаючы з такога палажэньня сябры кансысторыі *самавольна* пастанавілі павялічыць з кансысторскіх сумаў сабе пэнсію на 100 зл. у месяц кожнаму, што пры 4-х сябрах кансысторыі вынясе ў год 4800 зл.

Грошы гэтыя зьбіраюцца цяжкімі зборамі за мэтрыкі, разлукі і падаткамі, з цэркваў за сьвечкі, якія веруючыя ставяць за апошнія грошы, як ахвяру на сваю родную падчас з дзіраваю страхою царкву, каб падтрымаць яе, а замест гэтага падтрымліваюць элемэнты варожыя, якія руйнуюць царкву.

Якое-ж запраўднае матэр'яльнае палажэньне сяброў кансысторыі?

Прат. Кушнёў зьяўляецца настаяцелям Мікалаеўскай царквы, этатовым прэфэктам усіх віленскіх урадовых сярэдніх школаў, прэфэктам расейскае гімназіі Пасьпелавай і інш. прыв. школаў, а адначасна і сябрам кансысторыі. Усе сябры кансысторыі атрымліваюць ад ураду па 225 зл. у месяц, а дзеля гэтага месячны даход яго выносіць каля 1000 зл.

Трэба зазначыць, што этатовы прэфэкт сярэдніх школаў павінен займаць толькі адну гэтую пасаду, як гэта і ёсьць у Варшаве, Горадні і іншых гарадох, а ў нас для прат. Кушнёва законы ня пісаны.

Прат. Тучэмскі зьяўляецца рэктарам сэмінарыі.

Па пасадзе рэктара, выкладаньні прадметаў пры гатовым памешканьні і сяброўстве ў кансысторыі атрымлівае прат. Тучэмскі таксама ня менш 1000 зл. на месяц.!

Архім. Піліп Марозаў атрымлівае крыху менш: частку даходаў Духава Манастыра, гатовую кватэру і ежу дарма, а таксама 225 зл., як сябра кансысторыі.

Здавалася б што для аднаго—манаха— і гэтага даволі. Але гэты манах хіба нічога хутчэй так моцна не забыўся, як манашаскае абяцаньне „умерщвленіе плоці".

І вось пры такім матэр'яльным палажэньні нашыя апякуны праваслаўя пастанавілі браць сабе яшчэ па 100 зл. у месяц.

## Візыта.

Па заснаваньні Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту зьвярнуўся з просьбаю да старшыні камітэту адзін з сяброў кансысторыі аб прыняцьці яго пагутарыць.

У вызначаны тэрмін, гэты сябра прыйшоў, шукаючы сабе падтрыманьня з боку Камітэту.

Дзеля таго што родныя па духу гэтаму сябру кансысторыі бруковыя газэткі падавалі весткі, што Ц.Б.П.К. „міфічны „мыльны пузыр" і г. д., дык старшыня прыняў яго дзеля доказу запраўднасьці Камітэту не адзін, а ў поўным складзе Прэзыдыуму.

Ня будучы падгатаваным да такога ўрачыстага прыйма, сябра гэты быў

вельмі нездаволены, зразумеўшы, што тут яму ня ўдасца чмуціць людзей сваёй „тоже белорускостью“. Прасядзеўшы пару гадзінаў прыйшлося як кажуць,ісьці да хаты знічым.

Наткнуўшыся на прыймо ў Бел. Прав. Камітэце, гэты сябра кансысторыі кінуўся ў абоймы аднаго „белорусского“ сэнатара з „істінно русской душой“, каб „едінымі усты і едіным сердцем“ пяяць „Боже, царя храні“.

*Вуха.*

# ХРОНІКА.

== 22 лютага 1930 г. залажылася ў Вільні Беларуская Ініцыятыўная група па справам беларусізацыі царквы.

== 14 сакавіка Беларуская Ініцыятыўная Група па справам беларусізацыі царквы склікала ў Вільні зьезд прадстаўнікоў праваслаўных беларускіх арганізацыяў і прыхаджан. На зьезд гэты прыбыла шмат прадстаўнікоў з правінцыі, як з епархіі Віленскай і Горадзенскай. Зьезд пастанавіў утварыць Беларускі Праваслаўны Камітэт, што і было зроблена.

== 20 сакавіка г.г. прадстаўнікі ЦБПК. у асобах старшыні Т. Вернікоўскага, віцэ-старшыні Ус. Більдзюкевіча і сэкратара С. Сарокі былі у віленскага ваяводы, як дэлегацыя Ц.Б.П.К.

== 24 сакавіка г.г. выкінуты з Беларускага Студэнскага Саюзу наступныя сябры Саковіч, Вялецкі і Вярбіцкі як элемэнты дэструкцыйныя, сьведама імкнучыяся да разбурэньня Б.С.С.

== 25 сакавіка г.г., як штогод сьвяткавалася Незалежнасьць Беларусі. У праддзень гэтага адбылася ўрачыстая акадэмія ў Саюзе Беларускіх студэнтаў, якую маніліся сарваць камсамольцы, аднак ім гэта не ўдалася і акадэмія была дакончана. У дзень незалежнасьці адбылося ўрачыстае набажэнства а гадз. 10 у касьцеле сьв. Мікалая, а гадз. 11 Пятніцкай царкве, а гадзіне 12-ай ў Мікалаеўскай царкве. Адначасна а гадзіне 12 адбылася ўрачыстая акадэмія ў салі Віленскай Беларускай Гімназіі, а у вечары адбылася ізноў-жа акадэмія ў Салі Гандлёўцаў. У сьвяткаваньнях гэтых прыймала ўдзел усё беларускае грамадзянства.

== 8 красавіка г.г. памёр сэрбскі праваслаўны патрыарх Дзімітрый. Урачыстыя хаўтуры, пры ўдзеле сэрбскага караля, каралеўскай радні, міністраў, прадстаўнікоў духавенства рымска каталіцкага, мусульманскага, жыдоўскага, адбыліся 10 красавіка. Пахаваны патрыарх у Раковіцах.

== 12 красавіка г.г. праваслаўныя вучні Віл. Беларускай Гімназі як штогоду спавядаліся і прычашчаліся. Вячэрню і літургію адслужыў сьв. А. Коўш.

## РЭДАКЦЫЯ „СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ“

ветліва просіць паважаных чытачоў, як духоўных так і сьвецкіх, прысылаць артыкулы і заметкі царкоўнага, культурнага, нацыянальнага, эканамічнага і інш. зьместу. Усе балючыя пытаньні знойдуць мейсца на старонках „Сьветач Беларусі“. Пісаць можна ва ўсіх мовах, якую хто лепей ведае. Артыкулы і заметкі могуць быць надрукаваны альбо за подпісам аўтара, альбо пад псэўданімам у залежнасьці ад жаданьня аўтара. У апошнім выпадку, калі матэр'ал друкуецца пад псэўданімам, таямніца аўтара бязумоўна захоўваецца. Артыкулы і заметкі рэдакцыя просіць надсылаць па адрэсу: Wilno, Zawalna 6—5., ці на прозьвішча рэдактара.

Рэд.-выдавец З. ЗІМАВЕЦ. Выдавец Цэнтр. Белар. Правасл. Камітэт

Набрана літэрамі У. Знамяроўскага Надрукавана у друкарні „ZORZA“ Вільня, Віленская 15.